# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

**Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: Цана 1 даляр**

**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 45 КРАСАВІК — 1976 — APRIL ГОД. 22**

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

*Зруйнаваў Ты крыжам Тваім сьмерць, адчыніў разбойніку рай. Міраносіцам плач суцішыў і Апосталам прапаведаваць запавядаў, як Уваскрос Ты, Хрысьце Божа, дарачы Сьвету Міласьць Вялікую.*



# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ, НАБОЖНАМУ МАНАСТВУ І ЎСІМ БАГАЛЮБНЫБ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

**Любыя й дарагія Браты й Сёстры нашыя!**

З радасьцяй і захапленьнем мы кажны год сьвяткуем Уваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста. Вялікдзень, Уваскрасеньне Хрыста — запраўды Ясны Дзень у нашым жыцьці. Чалавек у гэты дзень аднаўляецца і ўзносіцца вышэй самога сябе. Пры гэтым людзі становяцца бліжэйшымі адзін да аднаго й творацьадзін арганізм — адну Хрыстовую грамаду. Пачуцьцё вялікае радасьці выклікае ў нас жаданьне падзяліцца вялікоднай радасьцяй з усімі вамі, раскіданымі па ўсім сьвеце — **Хрыстос Уваскрос!**

Уваскрасеньне Хрыстовае ёсьць цуд над цудам нашае веры, які зьяўляецца найбольшай падзеяй усяе гісторыі.

Сьвятыя Апосталы, навочныя сьветкі не расказваюць, як Хрыстос уваскрос, але сьветчаць і прапаведуюць пра самую дзейнасьць, што Ён запраўды ўваскрос. З гэтым пераканаўньнем і верају яны прынялі сьмерць мучанікаў: — ,Што да нас, мы ня можам не гаварыць пра тое, што мы бачылі й чулі" (Дзеян., 4-20).

Радасьць Уваскрасеньня Хрыста ўвайшла ў сьвет праз людзей, якія перад тым як паверыць, мусілі пераканацца, што іхны Настаўнік запраўды перамог сьмерцяю сьмерць і ўваскрос з мертвых.

Уваскрасеньне Ісуса Хрыста — гэта аснова, на якой апіраецца ўся навука Царквы. Сама Царква сталася жывым сьветчаньнем Хрыстовага Ўваскрасеньня, з гэтага й пачынаецца Ейнае йснаваньне. Сьв. Ян піша: ,,Пра тое, што было ад пачатку, што мы чулі й бачылі сваімі вачыма, да чаго прыглядаліся й дакраналіся рукамі сваімі, пра Слова Жыцьця, — бо Жыцьцё зьявілася, і мы бачылі, і сьветчым, і абвяшчаем вам гэтае Жыцьцё Вечнае, якое было ў Айца й зьявілася нам; пра тое, што мы бачылі й чулі, абвяшчаем вам, каб і вы мелі лучнасьць з намі, а нашая лучнасьць — з Айцом і Сынам Ягоным, Ісусам Хрыстом (І Ян І, 1-3). А Сьв. Апостал Павал паглыбляе думку і ўнікае глыбей у самую тайну, калі піша: ,,Калі-б Хрыстос не ўваскрос, тады запраўды й абвешчаньне нашае пустое, пустая й вера вашая" (Кар., 15-14).

Сын Божы прыняў цела й нарадзіўся ад Чалавека ад Дзевы Марыі — і гэтым ён прызнаў нас людзей дзяцьмі Божымі. А Ўваскрасеньне Хрыстовае, кажнаму з нас, хто жадае душою й сэрцам сваім, адчыніла дзьверы Божага Ўладарства, якому ня будзе канца.

Сын Божы Госпад і Збаўца наш Ісус Хрыстос Сваею сьмерцяй перамог сілу й вынікі грэху й падаў усім людзям надзею на ўвас-

красеньне да сьвятога новага жыцьця. Сьвяты Апостал Пётра прыпамінае нам: „Мы абвясьцілі вам сілу й прыход Госпада нашага Ісуса Хрыста, ня йдучы за хітра выдуманымі байкамі, але былі вачавідцамі Ягонае велічы” (2 Птр., 1-16).

Уваскросшы Хрыстос Бог наш не пакідае бяз увагі найменшае стварэньне. Не адчувайма сябе ў гэты Дзень самотнымі. Перанясемся думкамі на Радзіму. Духовым позіркам агледзім нашую сумную Галгофу — Беларусь. Прывітаймася духова з роднымі праз далёкія чужыя прасторы, з нашым шматпакутным народам заўсёды радаснымі словамі — **Хрыстос Уваскрос!** Няхай і там, дзе праз даўгія гады заглух звон Вялікодны, адчуюць праз смутак Вялікодную радасьць і поўнасьць свайго ўваскрошаньня.

Гуртуймася ўсе, дарагія й любыя Браты й Сёстры, пры сваёй Праваслаўнай Царкве, ды вызнаем Яе за сваю родную Матку, а Госпада Бога за свайго Айца, і тады мы ўваскросьнем да новага жыцьця. Бог паслаў нам вялікую Ласку й даў нам Сьвяты Дар — нашую Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ды наказвае нам: — „Слухайце голасу Майго, Я буду вашым Богам, а вы будзеце Маім народам” (Ерам., 7-23).

Выбачым адзін аднаму ўсе крыўды, і няхай запануе сярод нас палымяная братэрская любоў. З любоўю вітайма адзін аднаго сьвятым прывітаньнем — **Хрыстос Уваскрос!**

Дастойныя Айцы, любыя і дарагія Браты й Сёстры па ўсім сьвеце раскіданыя, у высылках і турмах спакутаваныя! Вітаем усіх вас у Сьветлы Дзень Пацехі й Надзеі — Уваскрасеньнем Хрыстовым. Няхай Ён, Уладар Сусьвету, напоўніць вас радасьцяй і натхненьнем, якія запанавалі у ўсіх вернікаў пасьля незямное весткі — Хрыстос Уваскрос! І ўсе мы ў радасьці натхнёна ўсклікнем —
— Запраўды Уваскрос!

Вялікдзень
Лета Божага 1976.

З волі Божае

**Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**
**Пакорны ў Богу Архіепіскап Мікалай.**

---

# З ВЯЛІКАДНЕМ ХРЫСТОВАГА УВАСКРАСЕНЬНЯ

*вітаем*

*ВЫСОКАДАСТОЙНЫХ УЛАДЫКАЎ НАШЫХ*
*МІТРАПАЛІТА АНДРЭЯ,*
*АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ,*

*Пачэснае сьвятарства і ўвесь клер царкоўны,*
*Усіх вернікаў БАПЦарквы*
*Увесь Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на чужыне.*

*Рада БАПЦарквы*

---

# СЬВЯТА СЬВ. ТРОЙЦЫ — СЁМУХА

Сёмуха — сёмая нядзеля па Вялікадні. Тройцай гэтае сьвята завецца таму, што ўсе мы вызнаём Тройчнасьць Боскасьці: Бога Айца, Бога Сына й Бога Духа Сьвятога, — Бога ў Тройцы аднасутнага.

Пра трэйцюю Асобу Прасьвятое Тройцы, Бога Духа Сьвятога, ужо ў Сьв. Пісаньні было зазначана, што „на пачатку Бог стварыў неба й зямлю, і Дух Сьвяты насіўся над вадою". А прарок Давід кажа: — „Госпадзе, няхай Дух Твой Сьвяты вядзе мяне шляхам праўды". Але тайна Адзінаістотнае й Непадзельнае Тройцы пачала адчыняцца людзям у Новым Запавеце ў самым ужо пачатку служэньня Госпада нашага Ісуса Хрыста.

Гэтак — у часе Хрышчэньня у Йардане хрысьціўся Сын Божы, Бог Айцец сьветчыў пра Яго голасам з неба „гэта Сын Мой Улюбёны . . .", а Дух Сьвяты зыйшоў на Яго ў выглядзе голуба (Мцьв. 3, 16-17), (Ян, 1-33).

Пра Бога Духа Сьвятога гаварылася ў прырачэньні Самога Госпада Ісуса Хрыста Апосталам: — Я ўпрашу Айца, і Ён дасьць вам другога Пацяшыцеля, каб павек быў з вамі — Духа Праўды . . . Не пакіну вас сіратамі, прыйду да вас (Ян, 14, 16-18). Таксама — „Ідзеце навучайце ўсе народы, хрысьцячы іх у „Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа, навучаючы іх выпаўняць ўсё, што Я запавядаў вам" (Мцьв. 28, 19-20).

Прырачэньне Госпада Ісуса Хрыста збылося ў пяцьдзесяты дзень па Ўваскрасеньні. У гэты Дзень Дух Сьвяты зыйшоў на Апосталаў у форме вогненных языкоў. І пачалі яны гаварыць мовамі розных народаў. І дзякуючы гэтай Ласцы Сьвятой Тройцы, Апосталы маглі стацца „сьветкамі Хрыстовымі ад Ерусаліму й аж да краю зямлі" (Дз., 1-8); і дзякуючы гэтай Ласцы, яны сталі мудрэйшымі за ўсіх тагачасных вучоных. Бо калі зьбегліся масы народу, і Апосталы пачалі гаварыць ім пра тое, што сталася, усе вучоныя кніжнікі маўчалі, бо не маглі нічым запярэчыць ім.

А тысячы людзей адразу ўверылі ў Хрыста і ў Прасьвятую Тройцу, і адсюль паўстала першая Царква Хрыстовая ў Ерусаліме. Вось так Жыцьцядайная сіла Духа Сьвятога прасьвятліла паганскую цемру, напоўніла душы людзей Сьвятлом Праўды й Любові Божае. І ад таго часу й да сяньня мы бачым, што супакой, дабро й радасьць ды шчасьце людзей і народу залежыць толькі ад таго, як яны служаць Богу, як карыстаюцца сілаю й Ласкаю Жыватворнага Духа Сьвятога.

Дух Сьвяты зыйшоў на Апосталаў, каб паказаць, што ўсе народы, гаворачы рознымі мовамі, пакліканы да Ўладарства Хрыстовага, і што кажны народ можа будаваць свае нацыянальныя

сьвятыні, славіць Бога ў роднай мове, але у Ўладарстве Хрыстовым усе злучаюцца ў адну сям'ю.

Праз зыход Сьвятога Духа грунтоўна зьмянілася й жыцьцё тых людзей, якія прынялі хрышчэньне. Яны лучыліся ў натхнёнай малітве і ўзаемнай любові й моцна трымаліся навукі Апосталаў. Гэтак нарадзілася Хрыстовая Царква, адроджаная ня з „тлеючага насеньня", але з нятленнага Слова Божага (Пятра, 1, 2). І няма такой сілы духа злога, каб спрацівіўся сіле Духа Сьвятога.

Толькі Ласка Сьвятога Духа можа аздаравіць людзтва ад страшнага духовага заняпаду, а зьневажаньне Сьвятога Духа вядзе да гэтага заняпаду. Як ня можа заскарузлае ад посушы поле даваць добры ўраджай, так ня можа заскарузлая душа чалавека стварыць на зямлі спакойнае й радаснае грамадзкае жыцьцё.

У дзень Сьв. Духа мы ўпрыгожваем свае Цэрквы, панадворкі зелянінаю, славячы гэтым усеажыўляючага Духа Сьвятога й Прасьвятую Тройцу. Таму й цяпер мы молімся, каб праз Зыход Сьвятога Духа на нас і на наш падняволены народ, мы прасьвятліліся і ўзмоцнілі душы нашыя.

Дух Сьвяты зыйшоў на Апосталаў у форме вогненых языкоў. Апосталы атрымалі дар прамаўляць да людзей іхнымі мовамі. Гэтым самым Дух Сьвяты асьвяціў кажную мову, а ў тым ліку й нашую Беларускую мову. Адсюль паходзіць Усяленскі характар Сьв. Царквы Хрыстовае. На пачатку хрысьціянства паміж вернікаў „было адно сэрца й адна душа" (Дз. 4, 32). І гэтая Ўсяленскасьць Сьв. Царквы Хрыстовае ня толькі не запярэчвае нацыянальнага характару Хрыстовых Цэркваў, а, наадварот, вымагае гэтага. Вымагае гэтага таму, што такая перадусім воля Самога Хрыста. Абдарыўшы Сьв. Апосталаў Сьв. Духам, Ён гэтым самым паказаў ім, што яны павінны абвяшчаць Ягонае Сьв. Эвангельле кажнаму народу ў ягонай роднай мове. Што такая была воля Хрыстовая, сьветчыць нам вялікі Апостал Павал, які сказаў: „Калі я малюся ў няведамай мове, дык дух мой моліцца, але розум мой застаецца бясплодным" ... Але ў Царкве хачу сказаць лепш пяць слоў маім розумам, каб і другіх навучыць, чым безьліч слоў у няведамай ім мове" (І Кар. 14, 14-19). Гэтую самую волю Хрыстовую мы маем і ў словах Яго, якія Ён сказаў Сьв. Апосталу Яну ў ягоным Адкрыцьці, дзе гаварыў Яну пра сем зорак — Цэркваў, пачынаючы ад Эфэскае Царквы (Адкр. 1, 11), і ўсе гэтыя Цэрквы былі самастойнымі, адна ад другой незалежнымі ў сваім нутраным жыцьці. Ужо гэтымі Сваімі словамі Сам Галава нашае Сьв. Праваслаўнае Царквы, Ісус Хрыстос, асьвяціў нутраную самастойнасьць усіх гэтых цэркваў.

Гэты запавет Хрыста пасьля стаўся запаветам апостальскім, які гаворыць аб велічы Божай мовай кожнага народу (Дз. 2, 11). Асабліва дакладна праводзіў у жыцьцё гэтую волю Хрыстовую

# КАНГРЭГАЦЫЯ (РЭЛІГІЙНЫ САБОР) У ПІНСКУ У 1790 ГОДЗЕ.

Ад 1788 да 1792 г. адбываўся ў Варшаве Чатырохлетні Сэйм, на якім разглядалася пытаньне й Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, якая ў тым часе была ўжо падпарадкавана Расейскаму Сыноду. Цяжкія палітычныя абставіны ў тым часе напэўна змусілі зьвярнуць асаблівую ўвагу на жахлівы стан Праваслаўнае Царквы, каб гэтым унутры краю супакоіць нялады, бунты й паўстаньні. Таму для польскага ўраду было больш карысным, каб праваслаўныя належалі да Канстантынопальскага Патрыярха, а не да расейскага сыноду. У гэтай справе польскі пасол у Турцыі й зьвярнуўся да Патрыярха ў Канстантынопалі, які ўжо ў лістападзе 1790 г. у гэтай справе выдаў да праваслаўных у Польшчы пасланьне, у якім радзіў праваслаўным не аказваць польскаму ўраду ніякага супраціву. Патрыярх пісаў: „З вялікім зьдзіўленьнем я даведаўся, што вашыя духоўныя начальнікі далі прысягу быць паслухмянымі чужой дзяржаве й выконваць такія распараджэньні, якія яўна мелі-б за мэту пад'юджаньне народу да непаслухмянасьці й паўстаньня супроць праўнае ўлады, да закалотаў у жыцьці ўласнай Бацькаўшчыны" . . . (В. Смоленскі. Остатні рок сэйму Віелькіего. Краков. Стр. 83-84).

Ужо 9-га кастрычніка 1790 году маршалак сэйму выдаў устаўную грамату ў справе праваслаўнае веры. У грамаце паведамлялася, каб да дня першага сьнежня былі выбраныя й прысланыя да Варшавы ўпаўнаважненыя дэлегаты дзеля апрацаваньня праекту новага статуту для праваслаўных у Польшчы. Згодна гэтае граматы на Беларусі — у Слуцку, Берасьці й іншых гарадох — і на Украіне адбываліся Саборыкі, на якіх былі выбраны наступныя дэлегаты: Сыльвэстар Бутлай з Віленшчыны, Сава Пальмоўскі — Ігумен Бельскага манастыра, Мяленты Бувайло-Лясьніцкі, — Ігумен Дзятлаўскага манастыра, Пецялькевіч Даніла й Саланевіч Сымон, шляхціч Панько Ілікевіч-Корбут і тры мяшчане: Хведар Міневіч, Мікола Дадані й Юры Зямковіч.

Выбраныя дэлегаты з удзелам вызначаных урадам 6-ці паслоў і 3-х

---

ўспомнены Сьв. Апостал Павал, які напісаў пасланьні да васьмі народаў, кажнаму ў яго роднай мове. Аб гэтай волі Хрыстовай гаворыцца і ў 34-ым правіле Сьв. Апосталаў: „Епіскапам кажнага народу належыць ведаць першага між імі".

І гэтая навука Хрыстовая й апостальская была пасьля пацьверджаная сьв. Усяленскімі Саборамі. На адным зь іх, трэйцім Эфэскім, у 431 годзе, была аднагалосна зацьверджаная Незалежная (Аўтакефальная) малая Кіпрынская Праваслаўная Царква, якая засталася такою аж да сяньня.

Апрача навукі Хрыстовае, апостальскае й сьв. Айцоў Усяленскіх Сабораў, і гісторыя людзкая, ды жыцьцёвыя факты, сьветчаць пра тое, што йснуюць нацыянальныя Праваслаўныя Цэрквы, як: Грузінская, Армянская, Грэцкая, Баўгарская, Сэрбская, Расейская, Кіпрынская, Украінская ды іншыя, у тым ліку й Беларуская.

сэнатараў распачалі працу ў сьнежні 1790 г. Напачатку сакавіка 1791 г. прадстаўнікі ад Праваслаўнае Царквы склалі да сэйму заяву пра неабходнасьць зарганізаваньня вышэйшага царкоўнага кіравецтва, бо пасьля арышту польскімі ўладамі Епіскапа Садкоўскага праваслаўныя ў Польшчы ня мелі вышэйшага царкоўнага кіравецтва.

Сэйм 5-га кастрычніка 1791 году ў адказе на гэтую заяву даручыў маршалку сэйму разаслаць да ўсіх праваслаўных манастыроў, парафіяў, архімандрытаў і пратапопаў паведамленьне, што 15-га травеня 1791 г. у Пінску склікаецца Генэральная Кангрэгацыя (Сабор), якога ўжо даўно ня мела праваслаўная царква. Ад манастыроў, брацтваў, парафіяў і праваслаўнае шляхты на Сабор былі выбраны дэлегатамі самыя дастойныя рэлігійныя й сьвецкія людзі, якія ведалі каноны сьв. Сабораў і правы дзяржавы.

Час адкрыцьця Сабору быў адложаны з 15 травеня на 15 чырвеня 1791 г. Прычынаю зьмены было тое, што далёкія дэлегаты не змаглі-б прыбыць на Сабор на 15 травеня. Кароль за згодаю Сэйму ад ураду вызначыў наступных камісараў: ад Літоўска-Беларускага Княства — Троцкага пасла Залескага й Пінскага пасла Бутрымовіча, а ад кароны — Сандамірскага пасла Кахanoўскага й генэрала Падольскіх земляў князя Чартарыйкага. На Саборы ўдзельнічала 24 дэлегаты ад клеру манаскага, 21 ад белага духавенства, 51 ад сьвецкіх, зь якіх 19 ад шляхты, а рэшта мяшчане. Разам брала ўдзел 96 дэлегатаў.

Апрача праваслаўных на Сабор зьявіліся й прадстаўнікі ад каталікоў: Генэрал інспэктар войска Вялікага Княства Літоўскага — Грабоўскі, сябры вайсковай і цывільнай камісіяў Пінскага павету, шмат польскіх урадоўцаў, вунійны Епіскап Якім Дашкевіч-Гарбацкі й Епіскап Тураўскі Булгак.

Прафэсар Власаўскі зазначае, што „ня з цікавасьці гэтыя асобы на Сабор зьявіліся, але каб прысутнасьць іх на адкрыцьці Праваслаўнага Сабору мела больш урачысты характар тае гістарычнае падзеі, каб пераканаць праваслаўных, змучаных за доўгія часы уціску, ды паказаць шчыры намер тагачаснага польскага ўраду паставіць Праваслаўную Царкву на новы стан праўнага й незалежнага існаваньня". (Власовськй, т. 3. Б. 219).

Нарады Сабору адбываліся ў царкве Богазьяўленьня Гасподняга. Адкрыў Сабор пасол Сандамірскі Каханоўскі. Старшынём Сабору быў выбраны найстарэйшы архімандрыт Мартанінскага манастыра Баланоўскі.

На Саборы быў апрацаваны статут для Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, які зьмяшчаў у сабе адзінаццаць пунктаў. Згодна гэтага статуту Праваслаўная Царква ў Польшчы й Вялікім Княстве Літоўскім хоць і лічылася залежнай ад Канстантынопальскага Патрыярха, але ў нутраным кіравецтве мела поўную свабоду выбіраць вышэйшыя кіраўнічыя ворганы. Нацыянальнае кіравецтва царквы павінна было складацца з Архіепіскапа, як галавы Царквы з правам Мітрапаліта, і нацыянальнага Сыноду ў складзе Архіепіскапа й трох Епіскапаў, якія адначасна кіравалі справамі і ў сваіх Епархіях. Гэтае кіравецтва павінна было прытрымоўвацца агульных пастановаў Сямі Ўсяленскіх Сабораў і не павінна было залежаць ад чужое ўлады царкоўнае, а толькі ў справах дагматычнае навукі магло зварочвацца да Канстантынопальскага Патрыярха. А ўсе іншыя справы павінны былі вырашацца пастановамі свайго нацыянальнага Сыноду. Пад кіравецтвам Сыноду кажная Епархія павінна была быць падзеленай на дэканаты. А дзейнасьць дэканатаў знаходзілася пад кантроляй Сыноду. Справы веры маглі вырашаць самі духоўныя асобы на аснове канонаў

і правілаў Сямі Ўсяленскіх Сабораў, а справы эканамічнага зьместу, добрага парадку й кіраваньня бюджэтам вырашаліся супольна з дэлегатамі й асэсарамі цывільнага стану, бальшынёю галасоў. У некаторых выпадках падаваўся й парадак дзяржаўнага ладу й адміністрацыі ў епархіяльных дэканатах і парафіяльных радах. (Праф. Латоцкі. Джэрала царкоўнага права. бал. 295).

Пасьля апрацаваньня й зацьверджаньня новага статуту для Праваслаўнае Царквы, Пінскі Сабор выбраў сяброў Галоўнае Кансысторыі з часоваю сядзібаю ў Пінску. Першым Старшынём Кансысторыі быў выбраны ігумен Бельскага манастыра Сава Пальмоўскі, а 2-га ліпеня 1791 году была выбрана Генэральная Кансысторыя, якая ў прысутнасьці сэймавых камісараў ды шматлікіх гасьцей зложыла прысягу, якую прачытаў камісар Каханоўскі. Пастановы Сабору былі перасланыя на зацьверджаньне сэйму. Выбраныя сябры Кансысторыі, не чакаючы на адказ з сэйму, распачалі дзеяньне.

Сабор або Кангрэгацыю ў Пінску трэба залічыць да гістарычных падзеяў праваслаўя ў Польшчы й Вялікім Княстве Літоўскім, бо пастановы Сабору, з прынятымі яго правіламі царкоўнага парадку, сьветчылі пра тое, што не зважаючы на прасьлядаваньне праваслаўных вунійнапольскімі дзейнікамі й далучэньне Кіеўскай Мітраполіі да расейскае царквы, сьведамасьць рэлігійная нашых прадзедаў, духавенства й вернікаў засталася непарушанаю.

Пастановай Пінскае Кангрэгацыі Галоўнае Нацыянальнае царкоўнае кіравецтва, у складзе Архіепіскапа й трох Епіскапаў, было забавязана дакладна прытрымоўвацца пастановаў 7-га Ўсяленскага Сабору, а Царква лічылася аўтаномнаю праваслаўнаю царквою ў Польшчы і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Знаўцы канонаў Усяленскае Праваслаўнае Царквы, якія кіравалі мясцовай Царквою, лічылі, што да прызнаньня поўнасьцю Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ўсімі праваслаўнымі Патрыярхамі неабходна мець уласную Іерархію ў складзе чатырох Епіскапаў, што дастаткова для незалежнага жыцьця Царквы й яе кананічнага й ерархічнага пераемства. На вялікі жаль гэты шырака апрацаваны статут ня меў практычнага прымяненьня з прычыны падзелу Польшчы, што сталася незабавам пасьля Пінскае Кангрэгацыі.

Падсумоўваючы вынікі адбытае ў Пінску Кангрэгацыі нельга ня ўспомніць, што праваслаўныя вернікі пастановы Кангрэгацыі ўспрынялі з радасьцю, забываючыся навет пра тыя зьдзекі, што працярпелі напрацягу двух стагодзьдзяў. Лацінскае-ж духавенства спаткала пастановы варожа. Гэтак, з Рыму да Варшавы наплывалі весткі: не дапусьціць, каб у каталіцкай дзяржаве чужое веравызнаньне карысталася з тых самых правоў, што й пануючая рэлігія; уступкі для праваслаўных могуць мець цяжкія вынікі для пануючай рэлігі, якая будзе паволі слабець; навет з матываў палітычных ня можна даваць невуніятам большых правоў у Польшчы, бо яны ў кожны мамэнт могуць учыніць закалот у дзяржаве ды будуць знарадзьдзем у руках Расеі?

Папскі нунцый у Варшаве 14 верасьня 1791 году перадаў каралю ноту Ватыкану з дамаганьнем не даваць ніякіх правоў праваслаўным. Але кароль адказаў, што справа зайшла ўжо далёка й адмяніць яе ня можна, бо справу праводзяць паважныя людзі, якія не захочуць яе адкінуць. Пасьля гэтага нунцыю быў загад з Рыму пайсьці на кампраміс з умоваю, каб праваслаўныя маглі мець толькі аднаго, а не 4-х Епіскапаў". (В. Біднов опус, цытата, стр. 495).

# 200-ЫЯ УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ АМЭРЫКІ

4-га ліпеня сёлета споўніцца 200 год ад часу абвешчаньня Злучаных Штатаў Амэрыкі незалежным гаспадарствам. Да гэтае вялікае ўрачыстасьці старанна падрыхтоўваюцца ўсе нацыянальнасьці, якія насяляюць ЗША. Беларусы, як і іншыя нацыянальнасьці, прымаюць удзел у гэтай урачыстасьці.

Калянізацыя Амэрыкі пачалася ў пачатку 17-га веку. Першая калёнія ангельцаў была заложана ў 1607 годзе ў Джэймстаўне. Ад тэй пары да часу абвешчаньня незалежнасьці прайшло звыш паўтары сотні год. І за гэты час утварылася 13 калёніяў. Каляністы былі розных нацыяў з Эўропы, пераважна ангельцы, французы ды іншыя эўрапейцы. Але насельніцтва ў кажнай калёніі было мяшанае. Гэта спрычынілася да ўтварэньня з часам аднаго вялікага гаспадарства, хоць-жа азнакі нацыянальнасьцяў ня сьцёрліся й да нашага часу. Калёніі кіраваліся самаўрадамі, але пад наглядам і з дазволу вызначаных з Мэтраполіі-Англіі губэрнатараў. Звычайна, на калёніі глядзелася, як на месца здабыцьця багацьця, таму праводзіўся досыць выразны вызыск з боку Мэтраполіі. Каляністы-ж у сваёй дзейнасьці былі абмежаныя; напрыклад, у гандлі й зносінах з іншымі краінамі й гаспадарствамі, таксама і ў нутраной дзейнасьці. А тымчасам абавязкі да Мэтраполіі мусілі спаўняць: утрымліваць ангельскае войска й даваць розныя пастачы й паслугі для Мэтраполіі.

Насельнікі калёніяў былі людзі, якія пакінулі родныя краі, шукаючы волі. Тымбалей іх цяжыла падпарадкаваньне пабочнай, ужо фактычна чужой уладзе. Не магло адбыцца зьмяшаньня й з тубыльчым народам — індэйцамі — з тэй самай прычыны — жаданьня волі. Будучы на ніжэйшай ступені культуры, індэйцы не маглі й не хацелі пераняць быт прыбылых людзей.А, калі каляністы часта займалі іхныя наседжаныя месцы, паўставала варожасьць і змаганьне за месца на зямлі, хоць-жа прастораў зямельных хапала паддастаткам — і тубыльцам, і каляністам.

Жыцьцё каляністаў было бурлівае, неспакойнае. Адбываліся частыя сутычкі з індэйцамі, паселішчы якіх былі хоць і рэдкія, але яны баранілі свае, ужо занятыя прасторы. Для сталай аседласьці й арганізацыі свайго агульнага гаспадарства вымагалася ўпэўненасьць і непахіснасьць у дасягненьні мэты. Для здабыцьця незалежнасьці павінны былі выдзеліцца людзі здольныя з цьвёрдым характарам.

У 1774 годзе ў Філядэльфіі быў скліканы Кантынэнтальны Кангрэс дэлегатаў ад 13-ці калёніяў, на якім была прынята пастанова патрабаваць ад Ангельскага Каралеўства адмены „Актаў За-

бароны". Але ніякага адказу ад Каралеўства не атрымалі. Пасьля гэтага Калёніі пачалі рыхтавацца да збройнай самаабароны й гатаваць зброю.

Падрыхтоўка да самаабароны занепакоіла ангельскую ўладу. Быў высланы экспэдыцыйны ваенны аддзел з генэралам Гэнджам начале, каб ліквідаваць збройны зачын. Але каляністы разьбілі гэты аддзел, і гэта быў пачатак збройнага змаганьня.

У гэтым часе, у траўні 1775 году, быў скліканы Другі Кантынэнтальны Кангрэс, на якім некаторыя дэлегаты дамагаліся адразу абвесьціць незалежнасьць, іншыя-ж — бальшыня — схілялася да таго, што Вялікая Брытанія пойдзе на ўступкі, бачачы сілу й салідарнасьць каляністаў.

З самага пачатку збройнага чыну на камандзіра Кантынэнтальнае арміі быў прызначаны Джордж Вашынгтон. Гэта быў ідэальны чалавек. Продкі яго — ангельцы — апынуліся ў Амэрыцы, як уцекачы ад рэлігійнага ўціску. Прадзед яго быў пурытанскім сьвятаром Прэсьвітэрыянскай Царквы. Джордж Вашынгтон быў чалавек моцна рэлігійны. Адзначаўся ветлівасьцю, гасьціннасьцю й дабрадзейнасьцю. Быў цьвёрды й непахісны ў перакананьнях, як і станоўчы ў прынятай пастанове дзеяньня. Прыняўшы камандаваньне Кантынэнтальнай Каляніяльнай арміяй, вёў змаганьне рашуча і ўпэўнена, нягледзя на няўдачы й перашкоды. Каляніяльная армія не адзначалася ваяўнічасьцю, таму няўдачы трапляліся паважныя. Асаблівую паражку Каляніяльная армія атрымала ў баі ў Брукліне. Амэрыканскае войска было разьбіта лепш азброенаю й здысцыплінаванаю арміяй ангельскай. У арміі Вашынгтона пачалася дэзарганізацыя — адны кідалі зброю й разьбягаліся, іншыя перайходзілі да ангельцаў, шмат каляністаў прысягнула на вернасьць Ангельскаму Каралю.

Аднак, не зважаючы на такое распачлівае становішча, Вашынгтон не зьняверыўся й прадаўжаў змаганьне ўсімі магчымымі спосабамі. У міжчасе, у 1778 годзе Францыя абвесьціла вайну Англіі й пачала даваць успамогу Амэрыканскай арміі, ня толькі матарыяльную, але й вайсковымі аддзеламі. Супраць англічан змагаліся й гішпанцы й галяндцы. З Эўропы прыбывалі выдатныя вайскоўцы, між імі Беларус з паходжаньня Тадэуш Касьцюшка, Немец Штэбен, Паляк Казімер Пуласкі, Француз Лафает ды іншыя.

Канчальная перамога амэрыканска-францускіх фармацыяў над ангельцамі сталася каля Ёрктаўну. Цырымонія капітуляцыі ангельцаў адбылася 19-га кастрычніка 1781 году.

Калі ангельскае войска пакінула амэрыканскі кантынэнт, Вашынгтон, разьвітаўшыся з арміяй, вярнуўся на сваю сядзібу ў Маўнт Вэрнон, каб заняцца гаспадарчымі справамі. Але не адыйшоў ад грамадзкай дзейнасьці. Пад яго кіраўніцтвам выпрацавана

# КЛОПАТЫ АТЭІЗМУ

Праз паўвеку змаганьня з рэлігіяй ўладары бальшавізму агледзеліся, што руйнаваньне сьвятыняў і мардаваньне сьвятарства ўплыло на стан рэлігійнасьці насельніцтва не на іх карысьць. Цяпер узяліся за „навуковае" адмаўленьне йснаваньня Бога. А практычна налеглі на моладзь, дзеючы праз школы й праз камсамол. Цікавы пад гэтым паглядам допіс з Нясьвіскага раёну, зьмешчаны ў часапісе „Чырвоная зьмена" ад 31-га студзеня гэтага году. З яго відаць арганізацыйная антырэлігійная акцыя сярод моладзі й вынікі тэй акцыі. Пачынаецца допіс напамінам пра лягенду, якой штось ня чуваць было. Ці не змайстраваная яна чыньнікамі „клясавай барацьбы". Аўтарка допісу Л. Нарубіна.

„Лягенда скупа данесла да нас гэту трагічную гісторыю. У 1592-м годзе італьянскі архітэктар і мастак Бернардоні закончыў росьпіс фарнага касьцёлу, які будаваў на заказ князя Радзівіла недалёка ад яго замку. Гаспадар, азнаёміўшыся з вынікамі работы, загадаў . . . выкалаць італьянцу вочы. Ён ня мог дапусьціць, каб падобнае цуда італьянец паўтарыў дзе-небудзь.

Сёньня перад уваходам у фарны касьцёл вісіць шыльдачка, якая паведамляе, што цудоўны помнік архітэктуры ахоўваецца дзяржавай. Кожнага, хто прыяжджае ў старажытны Нясьвіж, палоніць надзвычайная прыгажосьць гэтага збудаваньня. Сярод наведвальнікаў касьцёлу нямала моладзі, прыежджых, мясцовых жыхароў.

— Нажаль, ня ўсіх цікавіць мастацкая прыгажосьць касьцелу й чатырох цэркваў раёну, — расказваў другі сакратар Нясьвіскага РК ЛКСМБ Валеры Сталярчук. — Прыходзілі-ж сюды, каб справіць рэлігійны абрад хрышчэньня дзяцей камсамольцы раёну Рыгор і Людміла Яновічы, Георгі й Вера Зуёнкі, Галіна й Аляксандар Гецманы, Іван і Людміла Сьвірыды. Пры хрышчэньні ў ролі кумоў былі Лілія Гецман, Анатоль Кударэвіч і Васіль Ліхінька — таксама камсамольцы.

Факты гэтыя — яны мелі месца ў астравецкай царкве — выявіў нядаўна рэйд, праведзены райкомам. У гарадзейскай царкве ў хрышчэньні ўдзельнічалі дваццаць пяць камсамольцаў. З кожным з гэтых камсамольцаў сур'ёзна размаўлялі на сходах у пярвічных арганізацыях, потым — на паседжаньні бюро райкому. Што-ж высьветлілася? — Маладыя бацькі хрысьцяць сваё дзіця ў большасьці выпадкаў не таму, што вераць у Бога, а пад прымусам старэйшых або па традыцыі, — тлумачыў Сталярчук.

Як-жа змагаецца з „традыцыямі" цемрашалаў, з царкоўнымі забабонамі райком камсамолу? Ці здолеў ён супрацьставіць ім камплексную праграму атэістычнага выхаваньня — менавіта гэта патрабуецца ў раёне, дзе сярод дарослага насельніцтва яшчэ шмат веручых. (На тэрыторыі раёну 4 дзеючых царквы, касьцёл, тры малітоўныя дамы й дзьве зарэгістраваныя абшчыны).

---

Канстытуцыя, прынятая ў 1787 годзе, а ўведзена ў дзеяньне ў 1789 г.

Джордж Вашынгтон быў першым Прэзыдэнтам ЗША з 1789 па 1797 год.

Цяпер Злучаныя Штаты Амэрыкі, у ліку 50 штатаў, з 200 мільённым насельніцтвам, становяць наймагутнейшае й найбагацейшае Гаспадарства, у якім чалавек вольны ў выбары месца жыхарства й свайго занятку й працы.

Ня трэба асаблівай праніклівасьці, каб зразумець, што ў раёне дзясяткі дзяцей з самага маленства трапляюць пад уплыў рэлігійных поглядаў старэйшых, і ніхто ня мае права прайсьці міма гэтых фактаў (?—С.).

Першымі ўступаюць у барацьбу за маленькага чалавека, — за яго сьвядомасьць, душу, пачуцьці — школа, настаўнікі. І тое, што ў Нясьвіскім раёне 17 школ і . . . 8 дзеючых царкоўных установаў, ня можа не хваляваць настаўнікаў. Педагагічныя калектывы ў пераважнай большасьці вядуць вялікую й сур'ёзную работу дзеля атэістычнага выхаваньня вучняў. Школьнік адчувае на сабе ўзьдзеяньне з першых дзён. Паступова, ідучы ад простага да складанага, настаўнікі тлумачаць сваім выхаванцам законы прыроды, у якой няма месца боскім цудам, гісторыю разьвіцьця грамадзтва, і чалавека ў грамадзтве. Атэістычныя пагляды ў вучняў выхоўваюць на класных гадзінах і на занятках прадметных гурткоў. (Гэткая навука, як грамадазнаўства, з педагагічнага ўзгляду, можа падавацца прынамся ў старэйшых клясах сярэдняе школы, а для дзяцей — гэтае забіваньне іхных галоваў незразумелым баластам будзе толькі спрыяць атупеньню іх. І гэткую вось „навуку" інакш нельга клясыфікаваць, як толькі праступствам — (С.). Тэматыку гутарак, — гаворыцца далей: — літаратуру для слухачоў і агульную накіраванасьць атэістычнай работы дапамагае вызначыць „раённы савет атэізму" (чужасл. нашае — С.) пры райкоме камсамолу. Ён распрацоўвае мэтадычныя рэкамэндацыі школам, абагульняе й распаўсюджвае лепшы вопыт.

— У сваіх рэкамэндацыях мы выходзім з таго, што атэістычнае выхаваньне павінна весьціся з улікам узроставых асаблівасьцяў вучняў і псіхалёгіі дзяцей, у якіх бацькі веручыя, — падкрэсьліў старшыня савету.

Вось, напрыклад, гутаркі, якія райком рэкамэндуе праводзіць у 1-3-х клясах. — Як чалавек стварыў Бога? Чаму ўзьнікае навальніца? Чаму акцябронку сорамна хадзіць у царкву?" . . .

Паміналючы розныя зацемкі пра паасабныя школы, пра работу некаторых вучнёўскіх гурткоў „Атэіст" з дарослым і сталым насельніцтвам, пра дзейнасьць райкому камсамолу, — Нарубіна закончвае свой артыкул „Выдаткі дзедаўскіх звычак" спасылкаю на камсамольскую дзейнасьць калгасу імя Дзяржынскага, як характэрную для раёну, — з гэтага калгасу камсамольцы ўдзельнічалі ў хрышчэньні дзяцей.

„Плянамі работы раённага савету атэізму прадугледжвалася абмеркаваць атэістычную работу камсамольскае арганізацыі калгасу ў жніўні. А 19-га лістапада рэйд-праверка выявіў факты хрышчэньня дзяцей. Значыць, абмеркаваньне, што адбылося ў жніўні, дзейсных вынікаў не дало. Лекцыя на атэістычную тэму тут чыталася толькі адзін раз дый прысутнічала на ёй усяго 18 з 45-ці мясцовых камсамольцаў.

І толькі пасьля рэйду-праверкі райком у тэрміновым парадку заплянаваў вечар пытаньняў і адказаў на атэістычныя тэмы, які на жаль так і не абыўся.

У часе рэлігійных сьвятаў райком арганізуе выезды па раёне. Камсамольскія актывісты, члены апэратыўнага атраду цікавяцца, ці ўдзельнічае моладзь у гэтых сьвятах і на месцах разьбіраюць узьнікшыя пытаньні. Зьява, бязумоўна, станоўчая. Але больш карысьці было-б, каб гэта зьяўлялася часткай усёй агульнай дзейнасьці райкому ў атэістычным выхаваньні, дзейнасьці пасьлядоўнай і шматбаковай. Пакуль-жа гэтага няма. Эквівалент задум і іх ажыцяўленьне яшчэ не дасягнуты. Таму, напэўна, і ня сталі цэрквы й касьцёлы для моладзі раёну толькі мастацка архітэктурнымі помнікамі".

Ня сталі й ня стануць. **С-кі**

## ДЗЯСЯТАЯ ГАДАВІНА

Прабегла праз прэсу заходняга сьвету навіна, якая зьдзівіла хрысьціян. 14-га сьнежня 1975 году рымскі Патрыярх Павал VI пасьля Божае Службы, падыйшоў і, стаўшы на калені перад грэцкім герархам, пацалаваў ступні ног Мелітону Мітрапаліту Халкідонскаму, прадстаўніку Канстантынопальскага Патрыярха Дымітрыя I. Гэтак адзначыў рымскі Патрыярх дзясятую гадавіну адкліканьня анафэмы.

Сталася, што навет сам Мітрапаліт Мелітон быў заскочаны ўчынкам рымскага Патрыярха Паўла. У прачуленасьці Мелітон сказаў: „Толькі сьвяты чалавек мог зрабіць тое, што зрабіў Папа.

Што да самага адкліканьня анафэмы, гэта адбылося згодна дамоўленьня абодвых бакоў, якое было загадзя падрыхтаванае. 14-га сьнежня 1965 г., Патрыярх Атэнагор I ў Канстантынопалі, а рымскі Папа Павал VI ў Рыме зьнялі абапольнае пракляцьце, якое пакутавала з 1054 году — ад часу падзелу Цэркваў. Гэта быў запраўды добры пачатак для палепшаньня суадносін між дзьвюма Цэрквамі. I трэба адзначыць, што суадносіны паляпшаюцца.

Аднак, пытаньне зьяднаньня Цэркваў стаіць яшчэ, як праблема. Адной з паважнэйшых перашкодаў да зьяднаньня становіцца вунійная акцыя Каталіцкае Царквы.

# БАПЦАРКВА У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Сучасная Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Вялікай Брытаніі паўстала з Беларусаў-выгнанцаў з роднага краю.

Перад пачаткам другое сусьветнае вайны, калі бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь, на стыку 1939-1940 гадоў, у самыя лютыя марозы, пачалі сваю нялюдзкую акцыю — вываз на Сібір людзей, якіх яны лічылі для сябе небясьпечнымі. Трапіла туды шмат і сялян, і нацыянальнай беларускай інтэлігенцыі, бадай пагалоўна — лясныя стражнікі, ды іншы рабочы люд. Ня была памінёная й Царква, — апынуліся ў выгнаньні й першыя партыі сьвятарства. Калі ж у пачатку вайны нямецкая армія дасягла Ленінграду, Масквы й Сталінграду, задрыжэў тады Сталін. I абвесьціў амністыю ўсім былым польскім падданым, а таксама дазволіў тварыць польскую армію. Каб выбавіцца з бальшавіцкага пекла, пайшлі й беларусы ў корпус генэрала Андэрса, і прайшоўшы разам чынную ваенную акцыю, як вядома, па вайне дэмабілізаваліся ў Ангельшчыне.

Трэба адцеміць, што ў польскай арміі праваслаўнае жыцьцё было зарганізаванае, і па дэмабілізацыі паўсталі ў Англіі праваслаўныя парафіі, але яны належалі да Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якая зь беларускасьцю нічога супольнага ня мела.

Тымчасам на эміграцыі пачалі закладацца нацыянальныя беларускія арганізацыі, а ў 1948 годзе шмат беларусаў прыбыло з Нямеччыны, з Д.П. лягероў. Паўстала пытаньне арганізаваць сваю Царкву.

БАПЦарква ў В. Брытаніі пачала сваё йснаваньне з 1950 году, калі Сьв. Памяці Ўладыка Архіепіскап Васіль высьвяціў у ерэі брата Аляксандра Крыта, якому Бог судзіў з часам ачоліць Мітраполію БАПЦарквы. Айцец Аляксандар, нягледзячы на слабое здароўе, энэргічна ўзяўся за будову Царквы. Былі закладзеныя парафіі ў Брадфордзе, Бірмінгаме, Манчэстэры, а час ад часу правіў Божыя Службы ў Лёндане. У Брадфордзе — месцы пражываньня а. Аляксандра — Аддзел Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі, з дапамогай шчырай прыяцелькі беларусаў Мрс

Элізабет Проктар, ужо нябожчыцы, набыў дом. У гэтым доме ўладжана была капліца Сьв. Спаса, і месьцілася канцылярыя Вікарыяльнай Управы БАПЦ. Тут-жа пачаў выдавацца Царкоўна-Грамадзкі Бюлетэнь, у якім адлюстроўвалася рэлігійна-грамадзкае жыцьцё. Айцец Аляксандар зарганізаваў сыботнія беларускія школы ў Манчэстэры й Брадфордзе, дзе навучаў дзяцей Закону Божага.

Царкоўнае жыцьцё ў В. Брытаніі разьвівалася з пэўнымі перашкодамі, перапынкамі. Але з Божаю ўспамогаю з часам уладжвалася й паступова ўзрастала.

У 1961 годзе вернікі-беларусы мусілі разьвітацца з а. Аляксандрам. На жаданьне Архіепіскапа Васіля ён павінен быў выехаць на сталае пражываньне ў Амэрыку й абняць Парафію Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Аднак рэлігійнае жыцьцё не замерла: душпастырскую апеку нёс шчыры прыяцель беларусаў а. Пратаерэй Захар Паленаў — казак з паходжаньня.

Толькі пасьля сьмерці а. Захара праваслаўныя беларусы засталіся зусім асірочаныя. Праўда, гэты стан трываў нядоўга. Даў Бог, да нас прыйшоў з вырашальнай успамогай брат Ян Абабурка. Дамовіўшыся з вернікамі, ён выехаў на навуку ў Бэльгію, дзе й вытрымаў экзамен перад камісіяй Духаўнікоў з вельмі добрымі вынікамі. На просьбу нашай Герархіі Галава Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Мітрапаліт Ніканор высьвяціў брата Яна ў ерэі 13-га кастрычніка 1963 году.

Вярнуўшыся з Эўропы, ужо як сьвятар, а. Ян энергічна прыступіў да арганізацыі рэлігійнага жыцьця. У хуткім часе ён аднавіў заняпалыя парафіі ў Манчэстэры, Брадфордзе й Нотынгаме ды абслугоўваў яшчэ Бірмінгам і Лёндан. Трэба прызнаць шчырую, няўтомную й самаахвярную працу а. Яна пры абслузе некалькіх рэлігійных асяродкаў, працу, якая выконвалася ў любасьці да Царквы й сталай дбаласьці. І грамадзтва з належнай пашанай ацэньвае яго працу й прыслугу, ладзячы прыняцьці ўшанаваньня ў першыя й пятыя ўгодкі ягонай сьвятарскай службы.

На радасьць а. Яну і ўсім вернікам, у канцы студзеня 1970 году прыбыла да а. Яна ягоная суджоная Маці Кацярына, з якой а. Ян быў разлучаны падзеямі вайны. З малым дзіцём яна засталася на Бацькаўшчыне. І зажыла досыць нядолі й гора. Калі бальшавікі пачалі зганяць сялян у калгасы, паўстала галеча. Давялося перажыць і голад і холад, але сына выхавала й мела пацеху. І сын Мікалай марыў спаткацца з бацькам, якога знаў толькі з фатаграфіі. Але Воля Божая судзіла йнакш. Ужо ў 24-летнім узросьце ён трагічна загінуў — утануў у рацэ, нягледзя што добра плаваў, відочна хапіў курч. У скрусе й жалобе Маці Кацярына здолела толькі ўпрасіць мясцовыя ўлады, каб паставіць на магіле памятнік з крыжам. Цяпер бацькі знаходзяць толькі ў Царкве духовае супакаеньне. Шчырая, глыбока рэлігійная, ад дзіцячых гадоў зьвязаная з царквой, належычы да царкоўнага хору, Маці Кацярына ўлучылася ў працу а. Яна. З яе ўспамогаю здолелі набыць свой самаход, што ў вялікай меры аблегчыла працу пры абслугоўваньні парафіяў, наведваньні хворых ды іншых трэбаў.

Паважная й радасная падзея адбылася ў 1971 годзе, калі беларускія асяродкі ў Ангельшчыне наведаў Яго Высокапраасьвячэнства Мітрапаліт БАПЦ Уладыка Андрэй. Гэтая візыта ўзьняла вернікаў духова, і ўзмоцніла Царкву арганізацыйна. У часе сваёй візыты, 28 жнівеня ў Брадфордзе Уладыка Андрэй узвёў у дыяканы брата Яна Пякарскага, а ў Манчэстэры 5 верасьня высьвяціў яго у ерэі. Айцец Ян Пякарскі — патрыёт Беларус — за нядоўгі час зарганізаваў парафію ў Лёндане, дзе заўсёды

адчувалася нястача сьвятара, а таксам ў Бірмінгаме й Кэмбрыджы. Гэта аблегчыла працу а. Пратаерэю Яну Абабурка

12-га лістапада 1972 году адбылася ўрачыстасьць высьвячэньня нованабытай царквы ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры. Да выкананьня гэтага чыну спрычыніліся таксама й візыта Уладыкі Мітрапаліта, які падахвоціў вернікаў падняцца на гэты ўчынак. У досыць кароткім часе ахвярамі была сабраная належная сума грошай на зрэалізаваньне куплі дому. Знайшліся й такія вернікі, якія самаахвярна працавалі што сыботы, пакуль давялі будынак да належнага царкоўнага выгляду й да пасьвячэньня ў Дом Божы. Цяпер пры царкве маецца вялікая заля, якая дае магчымасьць праводзіць урачыстыя сьвяткаваньні пры большым ліку людзей.

У царкве а. Ян Абабурка правіць Божыя Службы што другое нядзелі. 20 мая 1973 году тут праводзілася храмавое сьвята й адначасна сьвяткавалася 800-я гадавіна ад часу сьмерці Сьвятой Ефрасіні Полацкай.

Асаблівае прызнаньне ўдзячнасьці вернікі й грамадзтва выказваюць айцу Пратаерэю Яну Абабурку й Маці Кацярыне, і ня толькі за правядзеньне Божых Службаў і выкананьне царкоўных трэбаў, а й за сталы й рупны дагляд царквы.

## РАДА БАПЦАРКВЫ Ў В. БРЫТАНІІ

Кіраўнічым органам Царквы сталася Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі. Цяперашні склад Рады БАПЦарквы: старшыня — Пратаерэй Ян Абабурка, 1-ы заступнік — а. Ян Пякарскі, 2-гі заступнік — Хведар Кажаневіч, 1-шы сакратар — Янка Калбаса, 2-гі сакратар — Пётра Шыркоўскі, скарбнік — Уладзімер Ганько, карэспандэнт — Міхась Яськевіч.

Рада БАПЦарквы кіруе Царкоўнымі Камітэтамі, якія існуюць пры парафіях. Заложана самаападаткаваньне аднаразовае на год; вядзецца стараньне набыць магільнік у Манчэстэры для Беларусаў — справа невясёлая, але патрэбная: людзі хочуць класьціся на вечны супачынак у адным месцы; праводзяцца поўныя праўныя фармальнасьці з Брытанскімі ўладамі. У астатнія часы БАПЦарква ўрадава зарэгістраваная, як праўная арганізацыйная адзінка.

**М. Стаўпіскі**

## ЛЕГАЛІЗАЦЫЯ БАПЦАРКВЫ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

З дня 28 кастрычніка 1975 г. БАПЦ і Царква Жыровіцкае Божае Маці ў Манчэстэры афіцыйна зарэгістраваныя ў Bury Registration District (№ in Register 38264). Цяпер у царкве могуць адбывацца шлюбы ў прысутнасьці ўрадоўца з Рэгістрацыйнага Офісу. Гэткая працэдура будзе забавязваць напрацягу году, да 28 кастырчніка 1976 г., а тады будзе вызначаная Галоўным Рэгістратарам адпаведная асоба або асобы ад Рады БАПЦарквы.

Рада БАПЦ ў Вялікабрытаніі падае да ведама ўсіх вернікаў, каб з фармальнасьцямі шлюбу зварачаліся да а. Пратаерэя Янкі Абабуркі, настаяцеля БАПЦ у Вялікабрытаніі. Ён дасьць патрэбныя тлумачэньні й дапамогу.

Very Rev. John Ababurko. 22 Daresbury St.,
Cheetham. Manchester 8; Tel.: 061-740-8230.

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ ЦЭРКВЫ У АЎСТРАЛІІ

Згодна статыстычных дадзеных у Аўстраліі ў 1971 годзе было зарэгістравана 338.635 праваслаўных розных нацыянальнасьцяў. Найбольшую групу становяць грэкі. Яны складаюць 50% усіх праваслаўных. Пасьля грэкаў ідуць расейцы, якіх ёсьць 22%, а рэшта — ўсе іншыя нацыянальнасьці. Існуе 175 праваслаўных парафіяў і грамад, а мянюўна:

87 грэцкіх парафіяў, 21 расейская, 20 сэрбскіх, 18 украінскіх, 9 македонскіх парафіяў, па 4 — антыяхійскія й копскія парафіі, па 2 парафіі маюць беларусы, румыны, армяне, а рэшта народаў — па аднэй парафіі.

Згодна юрысдыкцыйнай прыналежнасьці бальшыня парафіяў належаць да нацыянальных цэркваў свайго паходжаньня. Гэтак, з 87 грэцкіх парафіяў 73 належаць да Ўсяленскага Патрыярха, а 14 да так назв. Аўтакефальнай Грэцкай Царквы; з 21 расейскіх парафіяў 16 належаць да зарубежнага Сыноду, 2 да Амэрыканскай Мітраполіі і 1 да Канстантынопальскай Патрыярхіі; з 20 сэрбскіх парафіяў 10 належаць да Сэрбскае Патрыярхіі, 8 да Вольнае Сэрбскае Царквы й 2 да незалежнае групы. Беларускія парафіі належаць да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Украінскія адна частка падлягае УГПЦ ў Канадзе, а другая — УПЦ ў ЗША.

## „АНТОНІ, МІТРАПАЛІТ МІНСКІ Й БЕЛАРУСКІ"

Упяршыню пра Мітраполію Беларускую ў БССР даведваемся з газэткі „Голас Радзімы", выдаванай у Менску, а пашыранай за рубяжамі „Савецкага Саюзу". Дзе, хто й калі паставіў былога Архіепіскапа Менскага Антонія на Мітрапаліта Беларускага — няведама. У № 7 (з 19 лютага) „Голасу Радзімы" гаворыцца пра Мітрапаліта Антонія, як удзельніка папноўленага „Таварыства па культурных сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом", названага ўжо „Беларускае Таварыства „Радзіма".

У ліку сямёх сяброў „Савету таварыства „Радзіма" знайходзіцца й Мітрапаліт Антоні. Кажны з сямёх сяброў на арганізацыйнай канферэнцыі 27-га студзеня 1976 г. ў Менску выказаў сваё кароткае „экспозэ". У вусны Мітрапаліта Антонія яно ўложана гэткае: „Радзіма — гэта месца, дзе чалавек нарадзіўся. Радзіма — маці, але ёсьць і бацька — патрыятызм. Там, дзе жывуць за мяжой землякі, ёсьць таварыствы. Для людзей, што іх наведваюць, крыніца сьвятла — іх Бацькаўшчына. Нашы сьвяшчэньнікі працавалі й працуюць у многіх зарубежных краінах. Напрыклад, у царкоўна-прыходзкай школе ў Францыі, дзе вучацца дзеці эмігрантаў. Мы вязём з сабой кнігі, пласьцінкі, кінафільмы. Моладзь з-за рубяжа прыяжджае да нас, знаёміцца з нашай, савецкай, моладзю. Царква падтрымлівае стварэньне Беларускага таварыства „Радзіма", таму што яна заўсёды падтрымлівае ўсе добрыя справы Савецкага ўрада".

Астаецца паставіць пытаньне Мітрапаліту Антонію: „Якія кнігі везяце ў школы за рубяжом, калі Эвангельле й рэлігійныя кнігі у „Савецкім Саюзе" ня толькі ня друкуюцца, але і ўвоз іх забараняецца? Ці руйнаваньне цэркваў, гнобленьне й зьдзек з вернікаў і сьвятарства, страшэнная навала атэістычнай прапаганды, якая мяжуецца з арыштамі й зьняволеньнем вернікаў, а й сьвятарства — ці гэта ўсё для Мітрапаліта Антонія „добрыя справы Савецкага ўрада"?

## КАНФЕРЭНЦЫЯ СУСЬВЕТНАЙ РАДЫ ЦЭРКВАЎ

Сусьветная Рада Цэркваў аб'ядноўвае звыш 960-ці міліёнаў хрысьціян усяго сьвету. Не ўвайшла ў гэтую арганізацыю Каталіцкая Царква — абмежавалася пасылкаю прадстаўнікоў-назіральнікаў на агульныя канфэрэнцыі Рады. Праваслаўная Расейская Царква, а праўдзівей Маскоўская Патрыярхія, стала праўнай удзельніцай Сусьветнай Рады Цэркваў з 1961 году.

У другой палове лістапада 1975 году адбылася чарговая Канферэнцыя гэтае царкоўнае арганізацыі. Канферэнцыя адбывалася ў месьце Найробі ў Афрыцы, у гаспадарстве Кеніі. Месца Канферэнцыі выбрана не выпадкова. Чамусьці новаўтвораныя гаспадарствы з былых заходня-эўрапейскіх калёніяў, атрымаўшы незалежнасьць, што называецца, з рук былых сваіх уладцаў, лёгка падупадаюць пад уплыў бальшавіцка-маскоўскае прапаганды. Праўда, гэта заўважаецца скрозь: чым на ніжэйшай ступені культуры бытуе пэўны народ, тым лягчэй ён падупадае пад уплыў бальшавізму. Характэрна, што й сама Рада Цэркваў падупала пад уплыў бальшавізму, бадай, з таго часу, калі туды ўвайшлі прадстаўнікі Маскоўскае Патрыярхіі.

За час ад перадастатняй Канферэнцыі да 1975 г. Рада Цэркваў выдаткавала паўтара мільёнаў даляраў на падтрымку „вызвольнага змаганьня" ў Афрыцы, у тым ліку й змаганьня тэрарыстычнага. У запраўднасьціж гэта ня вызвольнае змаганьне ўжо вызваленых народаў, а падбурэньне мясцовых элемэнтаў, распрагандаваных бальшавізмам і падтрымліваных Масквой, для захопу ўлады.

Акалічнасьць гэтая выявілася выразна на Канферэнцыі 1975 году. Заклікі да „антыкапіталістычнага багаслоўя" — фактычна бальшавіцкая прапаганда, — паважна занепакоілі лічных заходня-эўрапейскіх дэлегатаў. Выступленьні пракамуністаў былі настолькі выразнымі, што частка англіканскіх ды іншых заходніх дэлегатаў дэманстрацыйна пакінулі адно з паседжаньняў. Англіканскі епіскап Грагам Леанард выказаўся, што „відавочна існуе такі непаўстрыманы утапізм у Радзе Цэркваў, што паводля яго, калі адкідаць і руйнаваць усе йснуючыя парадкі, то атрымаецца ўладарства Божае на зямлі". Епіскап не сказаў таго, што зусім не пра ўладарства Божае йдзе тут справа.

Ні выступленьні кансэрватыўных пратэстанскіх і некаторых праваслаўных дэлегатаў супраць рэвалюцыйнага спосабу дзеяньня Рады Цэркваў і апрабоўваньня гвалту для сацыяльных зьменаў, ні выступленьне Генэр. Сакратара Рады Цэркваў Поттэра, які стараўся згладзіць уражаньне ад палітычнага кірунку Рады, — не зьмянілі гэтага кірунку. Не ўдалася спроба некаторых амэрыканскіх дэлегатаў недапусьціць да выбару Маскоўскага Мітрапаліта Нікадыма на аднаго з некалькіх старшынь Рады Цэркваў.

Была спроба схіліць Раду Цэркваў на выразнае выступленьне супраць ганеньня за веру ў СССР. Было прачытанае пісьмо а. Глеба Якуніна й навукоўца фізіка Льва Рэгельсана, з заклікам да такога выступленьня й прыняцьця пэўнай пастановы. За такую пастанову выказалася большасьць дэлегатаў. Але супраць пастановы выказаліся прадстаўнікі Маскоўскае Патрыярхіі й прадстаўнікі баптыстаў з СССР, якія цьвердзілі, што ніякага ганеньня за веру ў СССР няма. І нягледзя на спрыяльную бальшыню, знойдзена была прычэпка за тэхнічную недацяжку пры галасаваньні, каб здаць пастанову ў Камісію. А з Камісіі ўжо выйшла пастанова „абгладжаная" агульная — пра неабходнасьць рэлігійнай свабоды, не ўспамінаючы парушальнікаў тэй свабоды.

# АХВЯРЫ НА КАНСЫСТОРЫЮ БАПЦАРКВЫ

**Працяг сьпісу ахвярадаўцаў за 1975 год**

### З Парафіі ў Кліўлендзе:

| | |
|---|---|
| Айцец Міхал Страпко | $40.00 |
| Антон Шастак | 25.00 |
| Н. Ягодзік | 20.00 |
| А. Ераховіч | 10.00 |
| Сяргей Карніловіч | 10.00 |
| Васіль Лагошняк | 10.00 |
| Віктар Сьпічонак | 5.00 |
| Васіль Дурэйка | 5.00 |
| Іван Каваленка | 5.00 |

**Разам: $130.00**

### З Парафіі ў Гайлэнд Парк

| | |
|---|---|
| Аляксандар Асіпчык | $200.00 |
| Васіль Русак | 35.00 |
| Аўген і Аліна Лысюк | 25.00 |
| Др. Галіна Сокал | 20.00 |
| Тамаш Супрун | 20.00 |
| К. Каранеўскі | 20.00 |
| Уладзімір Сьліўка | 10.00 |
| Ю. Стагановіч | 10.00 |
| Л. Стагановіч | 10.00 |
| Янка Груцько | 10.00 |
| А. Стагановіч | 5.00 |

**Разам: $365.00**

### З іншых мясцовасьцяў:

| | |
|---|---|
| Архіепіскап Мікалай | $231.00 |
| С-ва Х. | 500.00 |
| Міхась Шыкалюк | 100.00 |
| Др. Уладзімір Набагез | 100.00 |
| Айцец Ян Валюкевіч | 20.00 |
| Айцец Карп Стар | 5.00 |
| Др. Лявон Трусэвіч | 60.00 |
| Др. Раіса Жук-Грышкевіч | 50.00 |
| Др. Пётра Маркоўскі | 50.00 |
| Уладзімір Курыла | 30.00 |
| Павал Драздоўскі | 30.00 |
| А. і Т. Кольба | 25.00 |
| Язэп Арцюх | 25.00 |
| Праф. Л. Акіншэвіч | 20.00 |
| Сьцяпан Кірылік | 20.00 |
| Аляксандар Няпеін | 15.00 |
| Леанід Вінніцкі | 15.00 |
| Г. Малец | 10.00 |
| Уладзімір Дутка | 10.00 |
| Праф. Уладзімір Сядура | 10.00 |
| Павал Брушкевіч | 10.00 |
| Др. М. Смаршчок | 10.00 |
| М. Рагалевіч | 5.00 |
| Павал Андрусышын | 5.00 |

**Разам: $1356.00**

## НА ВЫДАНЬНЕ НАПРАСТОЛЬНАГА ЭВАНГЕЛЬЛЯ

**праз Раду БАПЦ у Вялікай Брытаніі**

| | |
|---|---|
| А. Калько | $3.00 |
| Я. Калбаса | 2.00 |
| С. Мак | 2.00 |
| М. Маркоўскі | 1.00 |
| М. Віценчык | 1.00 |
| Ул. Амельяновіч | 1.00 |
| Клюб „Сакавік" | 5.00 |
| Я. Міхальчык | 1.00 |
| М. Прошка | 3.00 |
| М. Баяроўскі | 5.00 |
| В. Карніловіч | 5.00 |
| П. Мятла | 2.00 |

**Разам: 31.00 англ. фун.**

---

У часе дыскусіі епіскапальны сьвятар з Шатляндыі Рычард Холёвэй, які падтрымліваў рэзалюцыю пра гвалт і рэлігійныя ганеньні ў СССР, сказаў: „Я заўважыў, што ёсьць няпісаны закон, дзейны ў Сусьветнай Радзе Цэркваў, паводля якога ніколі ня можна публічна абвінавачваць СССР". Закон ці не закон, але Маскоўская Патрыярхія пасланая туды нездарма.

Затое ўсе палітычныя рэзалюцыі супраць „капіталізму, імпэрыялізму, каляніялізму, расізму й мілітарызму былі прынятыя. Калі-б разабрацца папраўдзе, то гэтыя рэзалюцыі перадусім адносяцца да СССР, бо нідзе ўжо няма такіх разячых азнакаў капіталізму, імпэрыялізму, каляніялізму й мілітарызму, як у СССР.

# ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ СЬВ. АПОСТАЛАЎ ПЯТРА Й ПАЎЛА У АЎСТРАЛІІ

**Дні жалобы.**

У Памінальную нядзелю 11. 4. 75 пасьля Сьв. Літургіі й Паніхіды Айцец Георг з царкоўным хорам і вернікамі адведалі могілкі, дзе ляжаць супачыўшыя ўжо суродзічы. Дзень выдарыўся цёплы сонечны, спрыяльны да малітвы па адыйшоўшых у вечнасьць.

**
*

6-га ліпеня, 1975 г. у другую гадавіну сьмерці сьв. памяці былога кіраўнічага парафіі а. Васіля Чычэліса а. Георг пасьля Літургіі адправіў Паніхіду. Усе вернікі, якія былі на Літургіі, шчыра маліліся за супакой душы былога свайго настаўніка.

**
*

10-га жніўня, 1975 г. у гадавіну сьмерці Сьв. памяці Маці Шчурко а. Георг адслужыў Паніхіду. Пасьля Паніхіды яе дзеці прыгатавалі памінальны стол у прыцаркоўнай залі. Усе вернікі, якія былі на Сьв. Літургіі, прысутнічалі й на Паніхідзе й на памінальным абедзе.

**
*

18-га кастрычніка, 1975 г. у трэйцюю гадавіну сьмерці заснавацеля нашае Парафіі Мітрафорнага Пратаерэя айца Міхала Шчурко вернікі маліліся за супакой душы ягонае. Паніхіду адслужыў айцец Георг.

## УРАЧЫСТАСЬЦЬ 13-ГА ЛІПЕНЯ 1975 Г.

Важнейшай падзеяй мінулага году ў царкоўна-грамадзкім жыцьці было Храмавое Сьвята Царквы Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла, і адначасна адчыненьне новазбудаванай царкоўнай залі, якая будзе служыць цэнтрам рэлігійна-грамадзкага жыцьця. Да яго парафіяне рупна рыхтаваліся.

Божую Службу правілі — айцец Георг, кіраўнічы парафіі ,і айцец Аляксандар з Мэльбурну, у суправоджаньні хору пад кіравецтвам М. Бурноса. Малебен да Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла служылі — а. Георг, а. Аляксандар і а. Жылінскі з Украінскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы й ягоны Пратадыякан Разьнічэнка. Божая Служба закончылася прапяяньнем многалецьця Мітрапаліту Андрэю, Архіепіскапу Мікалаю, сьвятарству й парафіянам.

Пасьля ўсе прысутныя былі запрошаныя ў залю, дзе а. Аляксандар выканаў пасьвячэньне, і сталоў і ежы. У часе абеду было шмат прамоваў. Айцец Аляксандар выказаў задаваленьне з дзейнасьці Парафіі й жаданьне добрага развою на будучыню. Айцец Георг адзначыў сваю любасьць і ахвоту ганарова працаваць у нашай царкве, адчуваючы шчырае спачуваньне й падтрымку ад вернікаў. Айцец Жылінскі быў рады з Божае Службы й малітваў у беларускай мове й жадаў Парафіі плённай дзейнасьці ў будучыні. Выступалі з прамозамі й некаторыя парафіяне, выказваючы задаволеньне й радасьць з прыдбаньня свае залі для агульнай карысьці. У перапынках паміж прамовамі былі дэклямацыі, пераважна дзяцей і старэйшай моладзі.

Старшыня Парафіяльнае Рады К. Станкевіч дзякаваў усім, хто пры-

лажыўся да будовы залі, усім ахвярадаўцам, усім удзельнікам сьвята. А нарэшце, і асабліва, жанчынам-гаспадыням за дасканалае прыгатаваньне бяседных сталоў.

## КАЛЯДНЫ ВЕЧАР — КУЦЬЦЯ

Калядны Вечар пачаўся Божаю Службаю. Айцец Георг правіў Вялікае Павячэр'е. Вернікі пасходзіліся з усіх куткоў Адэляйды й запоўнілі ўсю царкву. Прыгожа сьпяваў узмоцнены хор пад кіравецтвам брата М. Бурноса. У канцы Багаслужбы а. Георг выканаў чын Мірапамазаньня вернікаў.

Потым усе прысутныя перайшлі ў прыгожа ўбраную залю. Пасярод залі стаяла ўбраная ялінка, а каля ялінкі Дзед Мароз пры складзіку каляровых пакункаў з падарункамі. У куце залі, на стале з сенам, накрытым белым абрусам, стаяла Куцьця, і над ею гарэлі сьвечкі.

Калі госьці разьмясьціліся за сталамі, сястра О. Бурнос расказала верш „Дзед Мароз", а старэйшыя — Бурнос і Калясьніковіч з дзяцьмі хадзілі карагодам і сьпявалі „Саўка ды Грышка", „Дзед Мароз! Чаму невясёлы . . .". Але Дзед Мароз разьвесяліў дзяцей падарункамі. Было й гамáну й радасьці, і бегатні й пахваляньня адно аднаму, і тату й маме.

О. Бурнос прачытала вершаванае Каляднае прывітаньне з Бацькаўшчыны й верш Калядкі. Хор выканаў дзьве песьні-Калядкі: Новая Радасьць і Неба й Зямля. Паўлік Калясьніковіч добраю беларускаю моваю прадэклямаваў верш — Дзед Мароз і Малітва. З прысутных нашых вернікаў і гасьцей былі дзьве асобы, для якіх гэты дзень быў днём іхных народзін. Гэта В. Дзітман і Дэбі Адамс. Ім разам з хорам усе ўдзельнікі Вечару прапяялі „Многая Лета".

Пасьля агульнай забаўнай часткі Айцец Георг прачытаў Малітву й асьвяціў Куцьцю й ежу, якую падрыхтавалі нашыя жанчыны, стараючыся прыгатаваць патравы, якія гатавалі на Бацькаўшчыне. А падчас вячэры рупна й ласкава частавалі ўсіх, з чаго былі задаволеныя, і свае й госьці, ня менш, як з гульняў і забаваў.

На Вечары было каля 80-ці дарослых і 20-ці дзяцей. Сьвяткаваньне працягнулася да самае поўначы. А разыйходзячыся гаварылі, што гэты пачатак супольнага сьвяткаваньня Сьвятога Каляднага Вечару трэба замацаваць надалей.

## СПАТКАНЬНЕ НОВАГА ГОДУ

У Парафіі БАПЦарквы ў Адэляйдзе ўвайшло ўжо ў звычай спатыкаць Новы Год паводля старога стылю. У гэтым годзе, як і ў мінулыя гады, 13-га студзеня адбыўся вялікі баль у прыгожай польскай залі ймя Каперніка. Ужо з 8-ай гадзіны ўвечары заля амаль запоўнілася сваімі сябрамі й запрошанымі гасьцямі. Грала добрая аркестра „Тытан". Гралі ўпярэмежку народныя й мадэрныя танцы.

Нягледзя на будны дзень, у залі было каля 4-х сот асобаў, і панавала атмасфэра лагоднасьці, весялосьці й радасьці.

Танцавалі й весяліліся, і маладыя й старыя.

На гэты раз нашыя парафіяне прынясьлі добрыя падарункі на лётарэю — 13 рознаякіх рэчаў. Лётарэя йшла бойка, а выграньнікі засталіся вельмі задаволенымі.

А 12-ай гадзіне ночы ўсе прысутныя выпілі тост за шчасьлівы Новы Год і за здароўе ўсіх у залі. І тады віншавалі адзін аднаго, з пацалункамі й пажаданьнямі шчасьця й здароўя.



**Царква Сьв. Пятра й Паўла у Адэляйдзе, Аўстралія**

Айцец Георг, які быў на залі з Матулькай і сваімі сябрамі, віншаваў з Новым Годам, з пажаданьнем шчасьця й здароўя усім прысутным і іх сем'ям.

Старшыня Парафіяльнай Рады, вітаючы ўсіх з Новым Годам, дзякаваў гасьцям, што ня цураюцца нас, Беларусаў, а таксама сваім за прынесеныя падарункі на лётэрэю й ежу для буфэту, і асабліва жанчынам за ўвіханьне каля буфэту. А калі паведаміў, што наступны баль будзе ў травені месяцы, то пачуліся гучныя воплескі. Потым танцы працягваліся да паўдругой гадзіны ночы.

На заканчэньне аркестра зайграла наш Беларускі Гімн. Госьці разыйходзіліся з удзячнасьцю да гаспадароў балю. Парафія-ж мела з балю паважны прыбытак у касу.

**
*

Дня 14 сьнежня 1975 году адбыўся Агульны Сход Парафіі, на якім выбрана Парафіяльная Рада ў наступным складзе: Кастусь Станкевіч — старшыня; Уладзімер Акавіты — заступнік старшыні; Міхась Бурнос — сакратар; Аўген Сітнік — скарбнік; Канстантын Ранцэвіч — сябра; Адам Шараевіч — стараста; Парфіры Трысмакоў — стараста; Янка Раллсон — прадстаўнік да сувязяў (паблік афіцэр).

Вялікую дапамогу ў працы Парафіі праводзіў Жаночы Дапамаговы Камітэт. На прапанозу Уладыкі Мітрапаліта Андрэя, гэты Камітэт зьмяніў назоў на **Сястрыцтва Сьвятой Ефрасіні Полацкай.**

## ПАРАФІЯ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

15-га лютага 1976 г. на Агульным Сходзе выбрана новая Парафіяльная Рада ў наступным складзе:

Кіраўнічы Парафіі — а. Васіль Кендыш, Старшыня — Мікола Гарошка, Заступнік Старшыні — Аляксандар Міцкевіч, Сакратар — Уладзімір Курыла, Скарбнік — Кастусь Верабей, Стараста Міхась Міцкевіч, Сябры — Мікола Заморскі й Юрка Касьцюкевіч.

У Рэвізійную Камісію выбраны: Старшыня — Уладзімір Набагез. Сябры — Пётра Манькоўскі, Уладзімір Русак.

# ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ, АЎСТРАЛІЯ

У нядзелю, 9-га лістапада 1975 г., у Мэльбурне, Аўстралія, Дэпартмэнт Эміграцыі ўрачыста адзначаў 25-ую гадавіну актыўнае дзейнасьці нова-пасяленцаў (эмігрантаў) на Аўстралійскім кантынэнце.

Галоўнаю часткаю ўрачыстасьці было служэньне Малебна Удзячнасьці ў Англіканскай катэдры сьв. Паўла ў Мэльбурне. На ўрачысты Малебен былі запрошаны й прысутнічылі духавенства й вернікі шматлікіх юрысдыкцыяў, у тым ліку й Парафія БАПЦарквы. Запраўды, узварушаны быў кажны прысутны суродзіч, калі ў пераліку ўдзельнікаў у ўрачыстым Малебне было прагалошанае: — Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква І так, у далёкай Аўстраліі, у аднэй з найбольшых Катэдраў прагалошаныя малітвы й за дабро нашага пабожнага Беларускага Народу.

23-га лістапада 1975 г. прат. Аляксандар, Настаяцель памеснай Парафіі БАПЦарквы ахрысьціў Аляксандра, сына Янко й Новэнкі Доброта, і Пятра, сына Аляксея й Уршулі Сьмірноў. Няхай Усемагутны Ўладар абдорыць Аляксандра й Пятра добрым здароў'ем, каб хутка расьлі й мацаваліся на Славу Бога, на радасьць бацьком ды пацеху людзям добрае волі. Дай Божа!

25-га лістапада 1975 г. Штатная Ўлада зладзіла адмысловае прыняцьцё для рэлігійных і харытатыўных арганізацыяў у Штаце Вікторыя. Прыняцьцё адбылося ў Губэрнатарскай рэзыдэнцыі. Удзельнікі — госьці былі прыняты й вітаны Губэрнатарам Вікторыі. Парафію БАПЦарквы рэпрэзэнтавалі двое сяброў Парафіяльнае Рады.

26-га лістапада 1975 г. у Мэльбурне добра знаная арганізацыя „Добра-Суседзкіх Суадносін" (Гуд Нэйбоўр Коўнсіл), якая цесна супрацоўнічае з перасяленцамі, асеўшымі ў гэтай краіне, зладзіла Юбілей (25-ты) свае дзейнасьці. У юбілейнай імпрэзе прыняла удзел і Парафія БАПЦарквы, якую рэпрэзэнтавалі Кіраўнічы й сябры Параф. Рады. Варта адзначыць, што ў арганізацыю Добра-Суседзкіх Суадносін увайходзіць 122 паасобныя рэлігійныя й харытатыўныя арганізацыі, у тым ліку й Мэльбурнская Парафія сьв. БАПЦарквы.

9-га студзеня 1976 г. на 68-ым годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць сьв. пам. Кузьма Нябоўскі. Пакойны Кузьма пакінуў у смутку жонку, двох сыноў, дачку ды чацьвёра ўнучкаў. Чын пахарону даканаў прат. Аляксандар. Цела пакойнага Кузьмы пахаванае 12-га студзеня пры лічнай колькасьці суродзічаў. Вечная Яму Памяць!

У нядзелю, 11-га студзеня 1976 г., стараньнямі Сястрыцтва пры Парафіі й Парафіяльнае Рады, замест традыцыйнай „Ялінкі" для дзецей, быў зладжаны супольны парафіяльны пікнік. Пікнік адбыўся ў добра ведамым парку блізка Мэльбурну. Лічная колькасьць суродзічаў надзвычай добра правялі час пры багатым пачастунку, песьнях, танцах, ды гульнях. Надвор'е на гэты раз было цудоўнае. Хацелася-б, каб Сястрыцтва пры Парафіі супольна з Параф. Радай падбала пра часьцейшыя гэткія пікнікі.

23-га студзеня г. г. у Мэльбурне адзначаўся афіцыйны Дзень Аўстраліі (Нацыянальны Дзень). З гэтае нагоды было зладжанае прыняцьцё для ўшанаваньня Дзяржаўнага сьвята. Прыняцьцё адбылося ў Мэльбурнскай Гарадзкой Залі. Галоўнымі прамоўцамі былі: Прэм'ер Міністар М. Фразэр, Прэм'ер Вікторыі Гамер, прадстаўнік Новай Зеляндыі, Архіепіскап Англіканскае Царквы ды іншыя, займаючы высокія становішчы людзі. У сьвяткаваньні прыняло ўдзел 1,100 асоб розных арганізацыяў,

у тым ліку й Парафія БАПЦ. Парахвію рэпрэзэнтавалі: Настаяцель а. Аляксандар з матушкай ды сябра Парахвіяльнае Рады.

Паводля нашага звычаю ды за прыкладам мінулых год, кіраўнік Парафіі БАПЦ а. Аляксандар наведаў хаткі суродзічаў-парафіянаў з Ярданскай вадою. З радасьцю трэба адзначыць, што суродзічы яшчэ памятаюць нашыя багатыя традыцыі й звычаі, і таму былі радыя з наведаньня й выкананьня гэтага хвалы годнага чыну.

8-га лютага 1976 г. адбыўся Чарговы Гадавы Справаздачны Сход. З справаздачаў прысутныя сябры парафіі даведаліся, што дзейнасьць парафіі за апошніх 12 месяцаў і посьпехі былі лепшымі чым у мінулым. Гэтаксама справаздача Скарбніка паказала, што парафіяльная маемасьць — фінансы, — нягледзячы на павялічаныя выдаткі, значна ўзрасла. З надзеяй глядзім у прышласьць. Дапамажы Божа!

## ЛЁС ЦАРКВЫ СЬВ. БЛАГАВЕШЧАНЬНЯ Ў ВІЦЕБСКУ

Расейскі археалёг Л. Аляксееў у сваей кнізе „Полацкая земля" (Масква, 1966 г.), апісваючы старадаўныя архітэктурныя помнікі Полаччыны піша:

„Калі Полацкая Сафія была здэфармаваная (напісана — „обезображеная") праз вуніяцкага мітрапаліта ў 18-ым веку, то яшчэ перад некалькімі гадамі ў Віцебску ўзвышаўся другі подля старадаўнасьці памятнік Беларусі, які захаваўся да нашых дзён амаль у цэласьці. Гэта ведамая царква Благавешчаньня, выбудаваная Віцеблянамі ў пачатку 12-га веку на Ніжнім Замку. Аднак доля Полацкай Сафіі чакала гэты помнік у... нашы дні(!). У сьнежні 1961 году, на загад мясцовых уладаў, удары нескладанага мэханізму — шарбабы — у некалькі гадзін абярнулі астаткі будынку ў руіны.

У выдадзеным у 1969 г. зборніку „Археологическіе открытія 1968 г.", на самым канцы разьдзелу III —Белорусская ССР — зьмешчана кароценькая, усяго на паўбалонкі, паведамленьне Каргера пад загалоўкам „Раскопкі руін царквы Благавешчаньня ў Віцебску". У ім, між іншым, чытаем (у перакладзе): „У 1961 г. царкве Благавешчаньня было нанесена цяжкое пашкоджаньне, ледзь ня прывёўшае да поўнай руіны гэтага старадаўнага помніка Беларусі. Усё-ж і ўцалеўшыя фрагмэнты прадстаўляюць агромную гістарычную вартасьць".

Аўтар канчае сваё лякані чнае паведамленьне заўвагай: „Вынікі ар хітэктурна-археалягічнага агляду помніка (экспедыцыяй Ленінградзкага аддзелу Інстытуту Археалёгіі) пазволілі ў сучасны мамэнт прыступіць да распрацоўкі праекту кансэрвацыі руін царквы Благавешчаньня".

Так „прыступіць да распрацоўкі праекту кансэрвацыі", але не царквы, а руін.

---

## ДАР ЦАРКВЕ

Уладзімір Сьліўка, парафіянін і чцец царкоўны ў Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку, штату Нью Джэрсі, упрыгожыў царкву дзьвюма мэталёвымі харугвамі, выпісаўшы з Грэцыі, коштам 1780 даляраў.

З роднага краю — Заходняе Беларусі — Уладзімір быў выехаўшы ў Паўдзённую Амэрыку. Там ён акуратна наведваў праваслаўную царкву, сьпяваў у хоры й чытаў часы й апостала.

Калі, у выніку другое сусьветнае вайны, ягоная сястра апынулася ў ЗША, яна навязала лучнасьць з братам Уладзімірам, які пераехаў на сталае жыцьцё ў ЗША. Тут ён неадлучна й шчыра працуе ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк. Шчасьць яму, Божа!

# „ЛЯГЕНДА ПРА МАР'ІН-ГОРКУ

Гісторыя гэтае мясцовасьці тым цікавая, што яе назоў паходзіць ад Імя Дзевы Марыі, Прачыстае Багародзіцы, і цікава, што да гэтае пары бязбожныя бальшавікі не зьмянілі яго на які іншы, як напрыклад — Ігумень на Чэрвень.

Мясцовасьць гэтая знайходзіцца ў Менскай вобласьці на паўднёвы ўсход ад Менску, паміж дзьвёх рэчак: Пцічы й Сьвіслачы, на чыгуначным пункце між Менскам і Бабруйскам. Цікава пазнаёміцца з гэным месцам цудоўнага пачатку.

Да 1812 году тут ня было сялібаў, плошча была пакрытая лесам таксванай Ігуменскай Пушчы. Пра яе маюцца два пераказы. Пра адзін давялося чуць ужо тут у ЗША ад старой эмігранткі — Ю. Гуз, — якая туды хадзіла з маці сваей у 1913 годзе паломніцтвам да Царквы Усьпеньня Прачыстае Багародзіцы і ў ёй цудадзейнага Абраза Божае Маці. А паходзіла яна з Рудзенска, 12 км. ад Мар'ін Горкі.

Яна памятала, як расказвалі старэйшыя людзі пра паход французаў на Маскву ў 1812 г., і з іх адзін аддзел прайходзіў якраз праз іх мясцовасьць. Людзі былі напалоханыя й разьбегліся па лесе. Гэтак адзін набожны Беларус, угледзеўшы нязвычайных людзей — французаў, пусьціўся хавацца ад іх дзесь далей ад вялікіх дарогаў, па якіх яны йшлі,і заначаваў у лесе, якраз на той горцы, якую ці ён ці хто пазьней назвалі Мар'інай .Зрабіўшы сабе нейкі шалас з гальля, назьбіраўшы моху, заснуў змучаны сном, здаўшыся на Бога й Яго апеку. І вось прысьніўся яму сон, быццам ён знайходзіцца ў вялікай царкве, шчыра моліцца прад Абразом Божае Маці, і так яму добра адчуваецца, што лепш і ня трэба. Прачнуўшыся рана, ён доўга думаў што-б то значыў гэты сон? І ён пастанавіў застацца на гэтай Горцы, што-б там ні было. Да зімы пабудаваў большую хату, паставіў крыж перад хатай, хадзіў у бліжэйшую вёску па еміну, расстараўся сьвяты Абраз Божае Маці, ды шчасьліва перазімаваў у ёй, хоць французы адыйшлі, і ўся вайна закончылася. Летам схадзіў у недалёкі Рудзенск і навет у Менск, і нейкім правам атрымаў назаўсёды тую Горку, дык і пасяліўся там на ўсе гады. Калі была скасавана паншчына, некаторыя сяляне атрымалі каля названае Горкі свае дзялянкі зямлі, дык пабудавалася тут і вёска, а ў ёй і царква, якую назвалі Імём Божае Маці Марыі, ад чаго й пачаўся той назоў Мар'інай Горкі, паводля расказу таго уцекача; яго-ж апавяданьне пераказвалася жыхаром, якія тут пасяліліся. Калі-ж праводзілася чыгунка з Менску на Бабруйск, Мар'іна Горка сталася чыгуначнай станцыяй, а ў 1875 годзе царскія ўлады пабудавалі ў ёй прыгожы Усьпенскі Сабор, сельска-гаспадарскую школу, ды была прывезена прыгожая Ікона Божае Маці, якая праславілася шматлікімі цудамі, што яе й называюць **Мар'інагорскай.** Адным словам, сталася так, як было прысьнілася таму першаму жыхару Мар'інай Горкі.

Другі пераказ крыху іншы. Гаворыцца пра аднаго Беларуса Ізыдара з вёскі Лядцы, які быў хворы, і яму ў сьне зьявілася Божая Маці ды загадала, што як ачуняе, каб на той Горцы паставіў крыж і царкву ды завесіў у ёй Абраз Божае Маці. Гэтак ён і зрабіў, і навет жыў пры тэй царкве да самага канца свайго жыцьця. А што царква была пастаўлена на горцы ў Імя Дзевы Марыі, Прачыстае Багародзіцы, то мясцовыя людзі й пачалі называць яе царквою на Мар'інай Горцы, а праслаўлены цудамі Абраз Багародзіцы ў царкве — Мар'інагорскім.

**А. Асіповіч**